Мацей Юзаф Кананові́ч

# Мой гай дубовы

Лірыка



МАЦЕЙ ЮЗАФ
КАНАНОВІЧ

# МОЙ ГАЙ ДУБОВЫ

ЛІРЫКА

**З польскай**

**МІНСК**
**«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**
**1986**

ББК 84.4П
К19

Пераклады зроблены з кніг:

Kononowicz M. J. Gaj dębowy:
Warszawa: Instytut Wydawniczy «PAX». 1974.— 54 s.
Kononowicz M. J. W ramionach srebrnych rzek:
— Warszawa; «PAX», 1953.— 51 s.
Kononowicz M. J. Portret nieurojony:
— Warszawa: Instytut Wydawniczy «PAX», 1962.— 59 s.
Kononowicz M. J. Rekonstrukcja biografii:
Wiersze wybrane i nowe.— Warszawa:
Instytut Wydawniczy «PAX», 1967.— 126 — s.

Склаў ЯНКА БРЫЛЬ

К $\frac{4703000000-049}{М302(05)-86}$ 169—86

## ЗОРКА НАД АБЕЛІСКАМ

Тут крыж не ставілі, і толькі зорка
Паверх слупка, у пяць пялёсткаў краска.
Пад ім гарбок, як кратавіння горка,—
Абвеяная ветрам з Одры каска.

Таблічка на слупку — імя магілы:
«Пятро Сямёнаў з Уладзівастока».
Далечыня!.. Якія ж трэба крылы,
Каб даляцеў сюды той рускі сокал!

Два кантыненты — Азія, Еўропа —
У даўгу перад адвагай сакалінай
Таго, хто сном салдата ўзбоч акопа
Заснуў навек пад супескам і глінай.

Усіх прахожых спыніць тут магіла,
І зорка будзе сведкай іх паклонаў.
Каб Одра польскай мовай гаварыла,
Аддаў жыццё і ён — баец Сямёнаў.

## НА ДРУГІ БЕРАГ

### I

Бягом, пехацінец! Праскочыш
Прадполле адзіным махам,
А грымне над каскай — потырч
Абляжаш пад Млечным Шляхам.

### II

Бягом праз агонь! Не кіне ж
Той бераг супраціўляцца.
Што лёсам прызначана, прымеш,
Каб з Одрай і Нісай абняцца.

### III

Бягом у міжрэчча! Гэта
Яно табе ставіць задачу:
Той бераг за Одрай — мэта.
Наперад! — і будзе удача.

### IV

Бягом к рубяжу рваніся!
Хоць след за табой крывавы,
А ўранні на Одры і Нісе
Ўзаўецца сцяг нашай славы.

## ВЁСКА НАД ОДРАЙ

### I

Вецер-гарэзнік шарыць і шарыць
па белых блузках,
то грудзі кране,
то пагладзіць па твары,
то прыпадзе да вуснаў.

Кружыць галовы водарам мяты,
лашчыць калені травою.
Ой, дзяўчаты, дзяўчаты,—
асвяжыце губы вадою!

### II

Хлопцам вецер на касавіцы
паблытаў чупрыны.
Прыйдуць дадому — як ім адбіцца
ад кпінаў.

Не дзіва дзяўчатам перакалоцца:
чубы як шчаціна, тырчаць бадылямі.
Ой, хлопцы, хлопцы,—
застанецеся бабылямі!

### III

А познім прыцемкам неспадзявана,
нібыта сустрэчы ніхто і не хоча,
сышліся-такі над Одрай люстранай
і прастаялі да ночы.

З вады маладзік выскаляўся шчарбаты,
зоркі ўваччу мільгацелі.
Ой, хлопцы, ой, дзяўчаты,—
другія пеўні прапелі.

## IV

Пеўні ўжо досвітак абвясцілі,
сонечны промень рэчкі крануўся,
а пацалункі яшчэ не астылі —
так і палаюць на вуснах.

Гоніць падпасак ад хаты да хаты
перад сабой пагалоску...
Ой, хлопцы, ой, дзяўчаты,—
прачнулася вёска!

## УРОЦЛАЎСКАЯ ІМПРЭСІЯ, 1952

На вулцы маленькай Уроцлава
вецер на частаколе
стараславянскую песню
грае, нібыта арган.
Дзяўчаты за сонечны вобад
нясуць агністае кола,
на якое з каштанаў пырскае
дрыготкіх ценяў фантан.

Муляр — анёл бяскрылы —
з блакіту працягвае рукі
па новы ладунак цэглы,
даспелай у самы крэс.
Завулак — заступіць шчыглік —
захоплены — што за штукі! —
высіцца шматпавярховы
жалезабетонны лес.

Даходзіць водгук прадмесця,
борзды, шумлівы, іскрысты,—

галасоў маладых і зычных
праз хрыбетнік руін пералёт.
Новыя рытмы ў тых песнях,
узнёслых і дынамічных,—
маладзічок рабрысты
натуе акорды нот.

Заплюшчу вочы ад грому,
што доўга хрыпеў у горле
заіржавелых вулканаў,
аж нібы меч заблішчаў.

За спаленым касцёлам
вырастаў з папялішчаў,
адраджаўся з вуголля
Пястаў арол. І напеў.

## МУЛЯРЫ

Метр за метрам вышай мецім рыску,
нас высокі ўзлёт запаланіў.
Мачты прымацуем на вятрыску —
дом уверх пад парусам паплыў.

Так без строп, без крылаў і без вёсел,
хоць прырос граніт да ног і рук,
уздымаем скрэплых фабрык водсвет
і на сёмым небе забрукуем брук.

Абжываем акіян прасторы.
Скрыгат кранаў. Пеніцца раствор.
Нагрувашчваем з цэменту горы.
Заганяем клін між хмар і зор.

З сотага паверха свет шырэе.
Бачым Одру, шапкі ніў і хат.
Даганяем сонца... Вечарэе.
Палавіну зрэзаў далягляд.

## ФРАНКФУРЦКІ ЗВОН

Суседзі-немцы, к вам у госці
Ісці ў нас не было настрою.
Я ўпершыню па гэтым мосце
Іду з ахвотай і без зброі.

Вам дзіўна, ды і мне нязвычна:
Да вас з працягнутай рукою
Ідзе паляк праз пагранічны
Кардон над Одраю-ракою.

Ён бачыў на сваёй радзіме,
Як вашы вылюдкі без жалю
Яго братоў у Асвенціме
І ўсюды, дзе прайшлі, знішчалі...

Гісторыя шчэ пасклaдае
Пра звон у Франкфурце харалы.
Хто ў міры жыць з другім жадае,—
Перакуе мячы ў аралы.

Нібы з нябёсаў над вадою
Нага ўсявышняга спусціла
Не звон, а стрэмя залатое,
І гэта стрэмя зазвінела.

Над вашым і над нашым полем
Гучыць мелодыя другая:

Адтуль, з-за Одры, больш ніколі
Вайна на Ўсход не зашугае.

«У дружбе, міры жыць шчасліва
Суседзям добрым па-суседску»,—
Вяшчуе звон, і ўтораць нівы
Яму па-польску, па-нямецку.

Край свету звон чуцён з нязменнай
Танальнасцю салютаў мая.
І я душою, як антэнай,
У гэты верш яго прымаю.

## КРЫЖ

Як вернешся, скажаш маёй матулі,
Няхай пра дамоўку распытвае тую
Над Одрай, дзе дуб наш, нібы ў каравуле,
Нязменна стаіць і спачын мой вартуе.

Як вернешся, скажаш дзяўчыне каханай:
Чакаю штодня, калі ўсход ружавее.
Яна мяне знойдзе пад крыжам драўляным,
Дзе каска, прабітая куляй, ржавее.

Як вернешся, скажаш сябрыне вясковай,
Ксяндзу-палітвязню,— як стануць пытацца,—
Што Одра і Ніса мне польскаю мовай
Загадваюць: спі і не думай вяртацца!

# ВІЗІТ НА ЧУЖЫНЕ

Ка мне прыляцеў з візітам
белы матыль, як дружа.
— Сядай,— сказаў я госцю.
І сеў ён моўчкі на ружу.
Было блакітна і жоўта,
бела было і чырвона,
зіхотную вазу на кветкі
вянчала сонца карона.
Свой позірк фарбамі цешыў
я, малады і дужы,
было чырвона і бела:
матыль палымнеў на ружы.
З жоўтае шклянкі чаю
пытала аблічча шклянoе:
— Дык гэта — ты і праўда?
— Я — і матыль са мною!
— Ты — як штодня, як заўсёды?
— Так, я інакшы заўсёды —
то каляровы, то спеўны,
то злосны, то поўны лагоды...
(Чую, як лічыць дакладна
сэрцавы ўдары ціша,
цень матыльковых крылаў
ружа пяшчотна калыша.)
— Даруй, мой госць, што маўчу я,—
кажу я з хваляваннем,
схіляючыся ўспамінам
над тым, што завуць каханнем.
Даруй, што і ты, і кветкі,
і сонца, і шклянка чаю,
блакіт, і аблокі будзяць
у сэрцы парыў адчаю.
Як каляровае шкельца,
сеў бы ты мне на вочы:

колер чырвоны і белы
бачыў бы днём я і ўночы.
Сеў бы ты мне на губы
песняй звонкай навукі —
з іх не зляцелі б ніколі
крыку зласлівыя гукі.
Даруй, што зноў замаўкаю,
табою зачараваны,
як бацькаўшчынаю любай,
якой да скону аддany...

## ВАРШАВА

Дзьмулі ўпартыя ў паняверцы
у жалейкі і медныя трубы,
аж пакуль не ўзрываліся сэрцы,
біла кроў іх праз спеўныя губы.
Ой, дошкі на сценах старожкі,
біла кроў праз спеўныя губы.
Грувасцілі шчэбень з бруку,
тратуары, камоды, цагліны,
палымнелі барвова іх рукі:
дзядулі — падлеткі — жанчыны.
Ой, дошкі на сценах старожкі,
падлеткі і жанчыны.
Стралялі з дубальтовак,
пад стогны і пад енкі
кідалі ў танк бутэлькі
напудраныя паненкі.
Ой, дошкі на сценах старожкі,
гінулі ў дыме паненкі.
З Лондана — песні слалі,
з-за Віслы — хлеб і зброю,

у друзе руін паміралі
хлопцы як героі.
Ой, дошкі на сценах старожкі,
падалі хлопцы-героі.
Глыталі ваду з канавы,
падкошвала ногі знямога,
на бруку і травах каналі:
«Смерць або перамога!»
Ой, дошкі на сценах старожкі,
грымотнае: «Перамога!»
Калі ўжо так жадалі
быць падабенствам цэменту,
дарэшты іх растапталі,
сцерлі Варшаву дашчэнту.
Ой, дошкі на сценах старожкі,
сцерлі Варшаву дашчэнту.
Мёртвым — малітвы шлем мы,
жывым — у сэрцы коле
за срэбны знак на шлемах,
за бела-чырвоны колер.
Ой, дошкі на сценах старожкі,
бела-чырвоны колер.
Грозныя сціхлі маторы,
згубіўся за лесам іх пошчак,
ужо прадаюць памідоры
ля гераічнай плошчы.
Ой, дошкі на сценах старожкі,
ля гераічнай плошчы.
Струнамі граюць кроквы,
сіроты, удовы, калекі,
аддрукаваныя крокі,
як ноты, застылі навекі.
Ой, дошкі на сценах старожкі,
ноты застылі навекі.
Мой сябра, заручаны з цішай,
нямы і глухі назаўсёды,

твой подзвіг і сёння калыша
сцягі жыцця і свабоды.
Ішоў і падаў балесна,
да агню падступаючы блізка...
пра цябе — мая шчырая песня,
калі тупаю да абеліска...
Ой, дошкі на сценах старожкі,
тупаю да абеліска.

## ВАРШАВА, 1948

*Таварышам з Паўстання*

Зноў і зноў прад вачамі
Варшава-сталіца праходзіць,
Ноччу плыве плытамі
Сноў, што ўспаміны родзіць.

Глядзіць маладзік асцярожна,
Мігаючы, зоркі сваволяць.
І — Вісла, якую няможна
Так, як і попел, адолець.

Хоць дым яшчэ слепіць вочы,
Ды днеюць вокны Варшавы,
І крочыш таропка, і крочыш
Сцягой, утаптанай у травы.

Скляпенні святынь з журбою
Вецер блакітны палошча,
Плывеш — і плывуць з табою
Руіны дамоў і плошчы.

Не многа ўбярог нязломны
Горад, баронячы волю,—

Зоркі, і месяц бяздомны,
Раку, і цвінтар, і поле.

Запомні куродым горкі,
Пакуль палацы не ўсталі.
Запомні магіл пагоркі,
Пакуль іх не здраталі...

Надыхайся ветрам Свабоды,
Якую ў заўтра несці,
Пакратай зубамі шчэбень
На Кракаўскім Прадмесці.

Хай смагу спатоліць рэчка,
Напомняць хваль яе рухі,
Што сёння ты не асечка
Дзён вераснёвай скрухі...

Устань, каб да сонца ўзляталі
Паверхі новай Варшавы,
Што сёння плыве плытамі
Сноў, палеглых у травы.

## ПАГЛЫБЛЕННЕ Ў СВІТАННЕ

А ні дарогі не было, ні сцежак,
А ні слядоў па снезе напраcткі.
Нас абступалі камяніцы вежаў,
Жандара постаць змрочыла блакіт.

Але ў вачах не перакрэсліш свята,—
Раднілася нявольнікаў сям'я.
Ты з Волгі быў, грамадзянін Саветаў,
Я з Нёмана, з Варшавы, з Польшчы я.

Фашызму цыркуль не даваў спачыну...
Мы ратаваліся не словам боскім,

Ты блаславіў любімую Айчыну
Святловым, Шчыпачовым і Твардоўскім.

Я — Лібертам, Міцкевіча баладай
Ці палымянай Норвіда страфой.
Грымела пераможна кананада,
Як Пушкіна чыталі мы з табой.

Світанак рос над намі вечным цудам,
Нікога ён на свеце не міне.
Ну, як цябе, Алёша, я забуду?
Ты ж дружбаю пашырыў сэрца мне.

Аршаншчына, чакаю я адказу,
Дзе спіць мой сябар, пад якой сасной?
Яго пачую і пазнаю зразу,
Бо ў кожны час навекі ён са мной.

## МАЁ ПАКАЛЕННЕ

Былі напачатку бель і сны,
Сны немаўленчай абстракцыі,
Пакуль не збудзілі мяне званы
І водар рускай акацыі.
Царкоўкі, чароды кабет і вазоў,
І словы, як покліч бою,
Як голас спрадвечных айчынных азоў:
«Polska z tobą» — Польшча з табою!
Пасля — барабанны поштчак ног,
Рэкруцкі спеў з грукам,
Ступіла вайна на самы парог
Гвалтоўным сталёвым друкам...
З высокіх паверхаў праз вокны на брук

У зябкай ранішняй сіні
Кветкі ляцелі з дзявочых рук
Да песні: «О мой размарыне...»
Драбінай раслі за гадамі гады,
Поўдзень выходзіў з дасвецця,
Дужэў, даспяваў лес малады,
Будзілася сэрца ў паэце.
Да трапяткіх вуснаў дзяўчат
Падносіў я полымя ружы,
Хмар навальнічных п'янлівы чад
Вецер гайдаў дужы.
Нарэшце я незабыўнай вясной
Зірнуў пранізліва ў вочы адной...
І зноўку белы малочны сон
Па-над калыскай дачушкі —
Вайна дратавала жытнёвы загон,
Бухалі ў далечы пушкі...
Забраўшы і песню і сэрца маё,
Восень ірдзела іржава,
Друз прыглушыў агню вастрыё —
Упартая змоўкла Варшава.
Граў потым вецер песню журбы
На трэснутых струнах руінаў,
Пакуль апошні выстрал пальбы
На вуснах вайны не застынуў...

Вяртаюся, любая, з дальніх мясцін,
З поля аціхлага бою,
Ты, помніш, пісала, ускліквае сын:
Польшча са мной —
Польшча з табою!

## ЛІСТ

Ты ўяўляеш: Прастора,
а гэта плошча, вымераная метрамі,
ты гаворыш: Дзень,
а гэта адрэзак часу ў абручах турбот
і штодзённасці гарбяках,
астаецца Ноч — маленькая станцыя
з забыццём — стойкай буфетнай,
да якой прытуліцца можна,
аж пакуль не абудзіць нас гупат
і свіст цягніка,
значыць, свет існуе па-за гэтым палонам
(і імчыцца туды, адкуль рэха і тое
не можа вярнуцца,
як жыцце пасля трапнага стрэлу).

Затрымаўся цягнік паміж часам і мной,
а ні грукат не вырве мяне з анямення,
ні свіст,
толькі ліст ад Цябе,
з забыцця мяне верне Твой ліст,
па дарогах чужыны блукае ён, кружыць,
і ў далонях халодных самшэлай вялюгай
маўчыць...
У Прастору цягну свае рукі — дзве рэйкі
напружання,
можа, выхапяць, вызваляць рукі
світанак з начы?

І тады да Цябе я вярнуся ў люлянку,
над калыскай схілілася ты і спяваеш...
Вайна? Стрэлы — паштоўка маўчання —
сляза.

## БУМЕРАНГ І РЭХА

Бліжэй і бліжэй — да цябе і да зор —
Чужою краінай іду растаптанай —
Усемагутны, смешны гіпнатызёр...
Магу аддзяліць ад сутоння світанак.

Паслухаю моўчу, зірну ў далячынь —
Ні крылаў, ні зорак, хоць выкалі вока.
Ступнямі ўгрызаюся ў цемру начы,
Крычу: да кахання зусім недалёка.

А што там наўзбоч, карацей ці даўжэй...
Тычка, ці крыж, ці гісторыі веха...
Вось паварот: бумеранг і рэха
Бліжэй і бліжэй —

І хопіць кахання данесці — люблю!
Прасторы і часу ўзарваць ціхамірнасць.
І выйграю я, я ўсе карты паб'ю
Сэрцам сваім, быццам тузам казырным.

Упарты, шчаслівы і смешны, нягож.
Схіляйце галовы ніжэй!
З абдымкаў я вырваны сілай, а ўсё ж —
Бліжэй і бліжэй —

Шчасце якое? Святло, а не змрок.
Хто там заходзіцца смехам?
Вочы твае ў яго, вуснаў апёк,
А для цябе — бумеранг і рэха.

## КАЛЫХАНКА *

*Мацеку*

Калыхаліся моры далёкія,
калыхаліся пушчы вялікія,
нахіляліся вольхі надрэчныя,
нахіляліся сны паніклыя.

Калыхаліся хмары на небе,
калыхаліся слёзы пад вейкамі
(так далёка ты, сынку, недзе,
без цябе мне так сумна, маленькі мой).

Калыхаліся нівы і травы
(я не бачыў цябе, мой сыночак).
Калыхаліся ў возеры зоркі
(ты не знайся з тугою, хлопчык).

## ГАРАДЫ СА СНУ

Дзіўныя гарады з'яўляюцца ноччу, як здані,
нараджаюцца ў сне і знікаюць яны на світанні.
Я іду скрозь пустэчу, месяц над імі — аховай,
словы снам аддаю, а сны ўсе аддадзены словам.

Са сну гарады у жэсце усе гіпнатычным,
у бледна-зялёнай спазме спакой іх трагічны,
дзіўныя гарады застылі лавінай нямою,
бязлюдныя і пустыя, звоняць яны цішынёю.

* Напісана ў гітлераўскім лагеры для ваеннапалонных у 1945 г.

Добра мне, гарады над небам бясконцым,
я, нібы лунацік, што выгнаны з сонца —
сярод вуліц слухаю ўласныя крокі,
чутно у месячным бляску рэха
з зялёнага змроку.

Люба мне слухаць крокі — адзіныя, першыя,
нібы з рэхам рыфмуюцца бясслоўныя вершы
сярод тых каменіц, што ў маўчанні вякуюць,
галерэяў, скляпенняў, дзе месяц начуе.

Добра быць адзінокім, забыць, што ёсць
словы і гукі,
жыць сярод вас, гарады, пераблытаўшы суткі:
свядомасць, і ява, і неба — пагоду прарочаць —
гэта ўсё адбіваецца ў сажалцы ноччу.

Са сну гарады,— сярод вашых дамоў забываю
мелодыю часу, што гадзіннік жывым абвяшчае,
як добра, калі забываеш і час і поры
і крочыш і ў снах і у словах без зморы.

Дзіўныя гарады, вы сустрэлі мяне за ста снамі,
зноў убачыў вас ноччу і зноў паяднаўся я
я з вамі —
агароджы, і плошчы, і вуліцы — ўсё тут вядома,
нібы тут маладосць я правёў і вярнуўся дадому.

Дзіўныя гарады прада мной паўстаюць,
нібы здані,
нараджаюцца ў сне і знікаюць яны па світанні.
Зноў іду скрозь пустэчу, месяц над імі —
аховай,
словы снам аддаю, а сны ўсе аддадзены словам.



*Жонцы*

Гляну ў неба на знічку-зорку:
любіць не любіць... Кахае...
Так заўжды, калі хтось на падворку
пры расстанні хусцінкай махае.

Ты сказала: «За сёмай гарою...»
Ты сказала: «За сёмай ракою...»
Я падумаў: «Прыгожыя вочы...»
Я такую чакаць ахвочы.

Не вяртаўся адтуль поезд,
грукатаў, абмінаў і гінуў,
у снягах, што былі па пояс,
наплывала вясна — з успамінаў.

Я спаткаў цябе неяк уночы,
быццам зоркі, свяцілі вочы.
Ты сказала: «За сёмай ракою...»
Адказаў я: «Паеду з табою!»

Гляну ў неба на знічку-зорку,
любіць не любіць, кахае...
Ды ўжо я не гадаю — горка
даўні боль у душы аціхае.

Я кажу: «За сёмай гарою».
Я кажу: «За сёмай ракою».
Я вярнуся, ты гэта знаеш,
Хоць і зрокам мяне не кранаеш.

## ЗЯМЛЯ АДАМАВАЙ МАЛАДОСЦІ

Калі б ні прыпаў я да струн Тваіх кніг,
Поруч бацька сядае, што пайшоў назаўсёды,—
Твой зямляк, з тых жа самых краёў Наднямоння...
Там, пад цёплым любові таўром, дом мой родны:
Маці (ведае кнігі Твае ўсе на памяць),
Брат задумны, сястра, закаханая ў Нёман...
Калі месяц кідаў на касцёл навагрудскі
Цень ад замка ў руінах — пілою зубатай,—
Як Ты калісь,— блукаў тут і я, закаханы
У дзяўчо-вузкавочку з завулкаў татарскіх.
Па слядах маладосці Тваёй вандраваў я,
Як цябе, калыхала з дзяўчатамі Свіцязь,
І былі закаханыя ўсе мы ў той томік,
На якім Тваё імя стаяла, Адаме.
Твае словы я ў гуках вышукваў і ў фарбах,
У абліччах людскіх, зорным небе й сінечы,—
Ты ж іх шчодра, як зерне, рассыпаў усюды,
Каб цвілі маладосцю яны векавечнай.
Воза скрып на распаленай, сыпкай дарозе,
Млосць ядлоўцу, дзядоўніку сінія кветкі,
Бурштыновая — з коўзкім арэхам — вавёрка,
Ручаінка пад клямкай крывою масточка;
Як замовы — млыны, курганы — як паданні,
Цэрквы, могілак жудасць бяззорнаю ноччу,
Стрэхі ў моху, свіронкі, грэблі, копанкі чорныя,
Смех крынічак — і спеў «жураўлёў» даўгашыіх;
Беравозы, брады, чаек тлум над чаўнамі,
Шчары шызай дарога, блакітны тракт Нёмна...
О, Адаме! Паўсюль, скрозь у гэтых малюнках —
Твая постаць, і вусны, і вочы, і сэрца!..
Ўзіму,— воўчыя зрэнкі, ашклёныя сцюжай,
Далягляд абніжаюць лядзяным мігценнем,—
Я з Дзярэчына браўся, страляючы пугай
Над трывожнымі коньмі і брычкай пявучай.

Увесну, едучы ў Слонім хрыбетнікам грэблі
Паўз асколкі люстэрак на поплаве росным,
Думаў я: ці калі Ты блукаў тут, Адаме?
Грэбля ж, як ксілафон, Тваім ладам звінела.
Летам — зелень, блакіт і дзявочыя вочы,
Працінае гармонік вечаровую цішу,
А панураю восенню — вёска ў панцыры ночы
Залатым пульсам вокан цямнечу калыша.
На пясчаным гарбе — волат дуб-раскарака,
Варта гонкіх таполяў наўкол гаспадарак,—
З кніг Тваіх знаў я гэта ўсё лепш і дакладней,
Чым пасля мне наяве пабачыць прыйшлося.
Паўтараў Твае вёсны ў тых самых мясцінах,
Між людзей гэткіх самых з засценкаў і вёсак.
О, каб мог я патрапіць расказаць пра ўсё гэта
З Тваёй сілай любові, з радкоў Тваіх звонам!
Дзе, калі б ні прыпаў я да струн Тваіх кніг,—
Поруч бацька сядае, што пайшоў назаўсёды,
Маці (ведае кнігі Твае ўсе на памяць),
Брат задумны, сястра, закаханая ў Нёман...

## БЯРОЗКА

*Танцавальнаму ансамблю «Бярозка»*

Гаснуць ціха лубіну свечкі,
У калін — сутоннем паверка,
Сіні змрок пацягнуўся да рэчкі,
Захінае вады люстэрка.

Не даходзяць да вёскі сцежкі,
Прыпыніўшыся на пагорку,
Засвяціўся каштан ад усмешкі,
Галавою калышучы зорку.

Лес гайдае мелодыя песні,
Што вяртаецца рэхам да вёскі,
Дзе начны маладзік напрадвесні
Пакідае на дахах палоскі.

Ён кранае дзявочыя губы,
Што спакусліва гэтак вабяць
Да шчымлівай мядовай згубы,
Падсалоджанай цемраю, мабыць.

Лубін — свечкаю каля пожні,
Заірдзеецца чырвань каліны,
Рэхам вернецца ў раз апошні
Песня ў родныя каляіны.

Час інакшы ўжо надыходзіць,
Небакрай світае за вёскай,
І дзяўчаты з ночы выводзяць
Свае постаці грацыі боскай...

За ракой, дзе мурог адметны,
Табунамі вятры гарцуюць,
Зачароўвае вочы балетны
Рух бярозак, якія танцуюць.

І адрозніць цяпер нялёгка
Ад бярозкі белай паненку,
Калі ранак знімае дрогка
З прыгажуні начную сукенку.

Танец. Плечы — вецер і парус,
Крык грудзей пад пражэктарам сонца,
Ногі, стаўшы крылатымі зараз,
У паветры лунаюць бясконца.

Ах, бярозкі!.. Над верасамі
Узлятаюць чародкай шпаркай,

Ім уторачы ў небе, часамі
Кружаць вольныя птахі пад хмаркай.

Не дае мне заснуць пытанне,
Як жа словам злавіць адгалоскі
Песні той, што ўваходзіць у танец
Рухам целаў дзявочых: «Бярозкі».

## 4.X.1957

Не параўнаць з захапленнем,
не параўнаць са здзіўленнем,
калі я гляджу на цябе,
рукатворная зорка.

Металічны гук смутку —
чацвёрты дзень, ноч і світанне —
слухаю у касмічным страху:
бііп, бііп — бііп, бііп.

Са змрочнай чырвані клічаш
з марозных планетарных водаў
абяскроўленым сэрцам.
Чаму ж тады наводзіш жах
сталёвых вуснаў, Іліяда:
бііп, бііп — бііп, бііп.

Слабееш. Траціш прытомнасць.
Вернешся на зямлю:
цяжка ўзыходзіць на неба,
калі ціснуць і час і адлегласць.
Калі той, хто спадарожнік убачыць,
падумае: добры знак,
«Паболела зорак кахання!»

## ГУЦУЛКА

Лес шуміць. Гара кранула
Мяккі цень — лавіну.
Пакуль светла, пакуль бачыш,
Пашукай дзяўчыну.
Ой сідай, сідай ріда,
Сідай, рідай дана —
Ноч надыдзе, знікнуць зоркі —
Раніца ў тумане.

Хоць мне ў кажусе новым
Горача і млосна,
На гулянцы, дзе малойцы,
Я не быў апошні.
Ой сідай, сідай ріда,
Сідай, рідай дана —
Як з дзяўчынай у скокі пойдзеш,
Ногі не прыстануць.

А калені, як спружыны,
Нібы прут сталёвы —
Ляцяць іскры з-пад абцасаў,
З гор даходзяць словы:
Ой сідай, сідай ріда,
Сідай ріда дана —
Вунь красуня-маладзіца,
Гэта ж мая мама...

Вір шалёны ў развароце,
Ужо косы ў разлёце,
Ужо вусны, вочы, стужкі —
Вір шаленства — весялушка.
Скачуць сцены, вокны, дзверы,
Паласой плывуць іконы,
Чырвань кветак збіта ветрам,

Вір — вір — вір — аж да шаленства,
Нібы з гор лавіна,
Як «ваўчок», што закружыўся
Музыкаї няспыннай.
Не шкадуюць ног, далоняў,
Аж падлога гнецца!
Прэч, дзяўчаткі, прэч, старыя!
У куток ці ў сенцы.

У танцораў кроў іграе,
Выгляд зухаваты.
Не ўтрымацца — ападаюць
Зоркі па-над хатай.
О, гэй-гэй! Не кроў ліецца —
Ранак весела смяецца.
Спакайнее танцаў шал:
Ранак выглянуў з-за скал...

Зоркі ў небе пагасаюць,
Лоб гуцулы выціраюць.
Моладзь стомлена, ледзь ходзіць,
Ноч звяла іх, дзень — разводзіць.
А раса зіхціць, іскрыцца.
Гоняць статак да крыніцы.
А дзяўчына? а дзяўчына?
— Злёг туман у паланінах...

Ой сідай, сідай ріда,
Сідай, рідай раты —
Будэш мене, дивчиночко,
Завтра вспоминати...

## ЧАЦВЁРТЫ ЗАПАВЕТ

Скроні тваёй маці пабяліла
Сівізна з руплівасцю мастачкі.
А калі ў яе не хапіла крылаў,
Рукі знерухомелі ў бядачкі.

Скамянелі ў твайго бацькі губы,
Скрэслілі маршчыны ўсмешкі ззянне,
Адляцелі, калі змоўклі трубы,
Мроі твайго бацькі аб змаганні.

І да сёння над хрыбтом магілы
Часам на крыжы яны не сцёрты,
Ты ад іх бярэш для ўзлёту крылы
І ад бога — запавет чацвёрты.

## НЕНАПІСАНЫ ВЕРШ

Цябе даганяў я сваёй маладосцю
і не пабачыў, як ты сталела.
Сам пасталеў, а ты ўжо ва ўзросце
такім, калі ўся галава пабялела.

Скроні мае маразы апалілі,
зноў ты ў дарозе, на дальнім паўстанку.
Зноў я імчуся праз гады і мілі
услед за табою бесперастанку.

Сустрэнемся, сыдземся недзе нарэшце,
роўныя ўзростам і сівізною.
Гэта і будзе верш мой найлепшы —
размова з табою.

## СЕМНАЦЦАЦІГАДОВАЯ

нарадзілася ўчора
на золку
на семнаццатым годзе
ўсёведная
ў бляску ўся
і ў ясноце

нарадзілася ўчора
на золку
ускормленая
плодам з біблейскага дрэва
універсальная
чатырохвымерная
атамная ева

ведаю ўсё беспамылкова
канчаткова
бясспрэчна
прасветленай свядомасцю
ахопліваю хвілю
і вечнасць

прасвятляю наскрозь
людскія мыльныя пузыры
з балотнага ўзвару
выкрываю толькі злосць
пыху
і крывадушнасць
над пергаментам кожнага
твару

і вось
адхіляюся я ад завадзі
тонкаю рыскаю

на марскім прасторы
падбіваю вёсламі
ластаўчыны маршруты
гнеўная
на вольным моры

я найдалейшая
я найглыбейшая
неспасцігальнай сілы
маладосць
падары мне крылы

за мной незмаўкальная
цёмная смутная
заблытаная і брудная
рэчаіснасць
да зямлі прыпісаная
прыцягненнем
безгарызантальная
бяскрылая
замшэлая куча каменяў

з адкрытага мора
азіраюся
каб адштурхнуцца вачамі
як вёсламі
ад далёкае сушы ліхой памяці
вось
мой вузенькі тварык
у пясчанага берага
на вуснах
стаіць непарушна
хоць плыве мора
хоць адплывае душа

. . . . . . . .

ты хто не мае ўлады
да неіснавання заклікаць
цяперашнія і мінулыя расчараванні
дай скаштаваць мне
неатручаны плод
з дрэва пакоры
і
з дрэва кахання

## ТАЯМНІЦА

З ілба непаслушную пасму
адкіну —
і затрапечацца сэрца ў зняменні.
Пабудзь,
пачакай
яшчэ хоць хвіліну,
яшчэ хоць адно імгненне.

Школьны званок нас аберагае,
ведае — часу мала.
Ці гэта пачулася мне:
«Дарагая!» —
ці гэта сама я сказала?

І ты на паўслове замоўк
і сумеўся,
зламаўшы ў трывозе бровы.
Званок! — а мая таямніца
ўва мне ўся
чаканнем
трапеча
новым

і светлым ветразем выплывае
у акіян неабдымны, бясконцы.
Я гэтак шчасце сваё схаваю:
ніхто не пабачыць —
ні неба,
ні сонца,
ні нават той,
якога стварыла
з думак,
з пачуццяў,
з трывогі чакання
і падняла на магутных крылах
да запаветных вышынь кахання,

не здагадаецца,
не папытае —
каго кахаю.

## ВОГНІШЧА

Толькі кволы агеньчык
перада мною,
толькі люстра рачное,
начное

ды маўчанне —
найлепшая наша размова
без ніводнага гуку,
ніводнага слова.

Не чапае нас вецер,
мы самі яго не чапаем,
не спалохаем рэха —
няхай спачывае.

Спіць адвечная пушча,
спяць прырэчныя дрэвы,
салаўіны алешнік
стаміўся ад спеваў.

Толькі мы на ўзбярэжку
незабыўнай парою,
твая ціхая ўсмешка
і дагэтуль са мною.

Наш агеньчык гарыць,
і стракоча запознены конік,
а на вёсцы не спіць
закаханы гармонік.

## БАЛАДЫ І РАМАНСЫ

Ля самых ног
усплёск
і пыркі,
і наплывае
бераг блізкі
сярэбранай лускі палоскай
і выбліскам зары
над вёскай.

Яшчэ хвіліна на світанку,
і ноч канчае
калыханку
над возерам,
але дасвеццем
гарэзлівыя зоркі,
быццам дзеці,

так разгуляліся —
ні ўпыну,
ні спачыну,
падміргваюць адна другой вачыма
і ў люстра возера
не наглядзяцца,
ім толькі б абдымацца,
мілавацца.

З вышынь
адна
ў ваду нырае,—
са дна
другая
выплывае.

Паддайся толькі,
заглядзіся,
зачараваны,
здзіўлены,
спыніся —
аслепіць вочы свіцязянка,
і не пабачыш
яснага світанку,
як набліжаецца
той бераг
нізкі,
як разбіваецца
на пырскі
сярэбранай лускі палоска,
як прыбярэжная
трымціць
бярозка.

Адзіны ён
навечна ўзяў уладу,

князь песень,
князь рамансаў
і баладаў,
над гэтым возерам
зачараваным
і над уласным сэрцам
закаханым,
над сітнягамі
і над берагамі,
што ў свет ідуць
бясконцымі
кругамі.

## ДЗЕЛЯ МЯНЕ ІДЗЕШ ТЫ

не высільвайся дужа
навошта
не будзе ўсё роўна факт зразуметы
я радуюся ад таго што
ходзіш дзеля мяне ты

ідзеш насустрач прыгодзе
якая была
альбо не была
а магла і адбыцца
з трыма галубятнікамі
п'янымі
у пустым гразкім завулку
што сыра імгліцца

і нічога ты не разумееш
ні таго што са мной ідзеш поруч
але
для мяне цёмнай ноччу

твае міны нязграбныя жэсты
і не баючыся нічога ідзеш ты

не тое што ты — а не хтосьці
важна што йдзеш
дзеля мяне такі моцны
што
дзеля мяне такі важны і ўзнёслы
што
дзеля мяне такі ўжо дарослы
мой гладыятар са школьнага балю

## ПЕРШЫ ПРЫХОД

спярша было па-дурному
чаму — здагадайся
ты ўсміхалася кветкам
кветкі мне
я табе ўсміхаўся

за акном стаяў шэры дзень
хату
дождж здаецца ахутваў
а ў пакоі трывожна напята
як у баладах
усё было яўнае дома
нашто сваё першае ўкладваць
у сказ у якім усё сцёрта вядома

паглядзела на маятнік
магніціцца ціша замшавым цепем
вагаешся
ісці — не ісці
ужо — ці яшчэ не...

падае падае слова
і чыесь вершы
а потым клавіш першы
абудзіў піяніна
кветкі прапалі
гадзіннік спыніўся
і не было ўжо нічога ў пакоі

я зноў паўтараю іграю
пласцінку светлых мелодый

і дзякую
дзякую
за першы прыход твой

## ВЫПУСКНІЦА

калі маладосць калышацца
і напінаецца
пад звон каруселі
калі плыве пад ветразем
надзьмутым пругка
ружа вятроў у валасах
і ружа вуснаў
параўноўваю
археалогію ікаравай тугі
з галоўкай касмічнай ракеты

ведаю
напачатку былі птушкі
а сёння лячу ў блакіт

напачатку былі птушкі
напачатку была младосць
напачатку было каханне

калышу калышу
вачамі свет
зоркі сцягваю ўніз
кіўком галавы
і касу з кручком
ізумруднай какарды
закідваю ў плынь юнакоў
пад вербамі і каштанамі

сябе адкрываю
у выбухах свядомасці
тварам да твару
у абстрэле паглядаў позіркаў слоў
раздваеннях свядомасці
у падабенствах
са спалохам у запытанні
ці гэта Я учарашняя
адкажы
якая ўсё-ткі Я
аднак іду ў ваду
якая ўсё глыбее
божа дай мне малю
пясчанае дно
і празрыстую плынь
і блакіт
у якім ты цяпер
я з атэстатам сталасці
іду насустрач смутку
іду ў пяволю вольнасці
веру ў верны выбар свету
што будзе люстэркам
маёй усмешкі

## БЫЛО ТОЕ ДАЎНО І НЯПРАЎДА

раўнадушна
з холадам вонкавым
абмінаючы
абмацваеш мяне ты вачыма
нават не скажаш мне:
                                        дзень добры
нават не скажаш:
                                   да пабачэння

рэдка пырхне слова
між табою і мной
на кажановых крылах
а зданяў іглістых ядловец
раніць заўсёды даткліва
мая панурая
пятнаццацігадовая
а бурклівая

адно як заснеш
калі мяне няма для цябе
і ты перапоўнена
снамі
углядваюся я ў цябе потайкам
і знаю

а я
перш чым прачнуся
перш чым сны раставарацца
рана
рана
чую як туркочуць маторы
не казалі сабе мы: дабрапач
не скажам сабе: дзень добры

ашукваем мы прахожых
вуліца
дом
бакавушка
кажуць: якія чужыя якія варожыя
толькі сябе ашукаць не можам
дачушка
. . . . . . . . . . . . .
у назве гэтага верша
найбольшы боль і скарга
паслухай:
было тое даўно і няпраўда

## САМОТА

часам надарыцца гэтакі дзень
абвяшчэння самоты
калі насуперак самой сабе
хочацца выйсці
пачаставацца цішай

ды дзе знайсці
такую сцяжыну
якую б хтосьці не пратаптаў
і каб нават уласны мой след
мяне даганяючы
не грукатаў за плячыма

дзе адшукаць такую глуш
і такую пустыню
каб не цягнуўся за мной
нават мой цень
маё рэха
маё імя

дзе знайсці мне месца на зямлі
у якім адно сябе пачую
вызваліўшыся
з зелені і архітэктуры

так бы хацела прысесці
сама ля сябе
у непарушнай цішы
распусціць валасы
мовіць адно пра сябе
і толькі сябе слухаць
нават ты
адыдзеш тады ад мяне

будзь жа мной
ува мне.

## ДУБ НАТХНЕННЯ

Хто выдумаў так той дуб
І хто апланаваў
Далягляд, у які
Ён упісаўся, кампактна стаў?

Карэнне, як жылы, пусціў
На пясчаных, гарбатых узгорках,
А шумлівым лісцём
Нырае ў блакітнае мора.

Хто выдумаў гэткі дуб,
З такой лірычнай высновай,
Што ў кроне, нібы ў галаве,
Трымае гняздо буслова?

Адгэтуль вёска відаць —
Платы, цэркаўка, хаты
І нізка схілены крыж —
Плён жыцця небагаты.

Ясна — калі б не дуб,
Вятры узгорак разнеслі б
І збяднеў краявід
Вёскі, што просіцца ў песню.

Вёскі гэтай маёй
З хатаю, кузняй, ставам,
З крыжам на стыку дарог,
З рэчкай, з мостам дзіравым.

Не было б і гнязда,
Дзе абжываецца бусел,
І найперш не было б
Радкоў гэтых самых, мусіць.

## СЦЕЖКІ

*Праф. Стафаніі Скварчынскай*

Сцежак не плануюць,
Не пракладаюць.
Сцежак няма на карце.
Але яны існуюць.
Злучаюць вёску з вёскай,
Хату з хатай суседа,
З крамай і з школай,
З карчмой і з касцёлам,
З кузняй і з млынам,
Лес — з ракой,

Хлопца — з дзяўчынай.
Іх нясведама людзі пракладваюць —
За годам год,
Кожны дзень, кожную ноч,
Басанож, у лапцях, у ботах,
Па мурагу, пяску, сумётах,
У маршы і ў бегу —
Мудра і лагічна звязваючы
У супольнасць і залежнасць,
Сяброўства і міласць.

Гляджу ў далячынь я вачамі цыганкі
На сцежкі, дарожкі,
Нібы на барозны далоні,
Раскрытай для варажбы.
Колькі сцежак вядзе да цябе?
Колькі сцежак вядзе ад цябе?
Я пагляджу. І скажу табе,
Хто ты.

## КАБ ЯШЧЭ РАЗ

Каб яшчэ раз
прывітаць шчэбет
і сонцаўсход
на лясной дарозе.
Каб яшчэ раз
заснуць на хаду
у страі
ці ў духмяным стозе.

Каб яшчэ раз
з месца ў галоп
і ў Нёмане выкупаць коней.

Каб яшчэ раз
ноч згубіць,
заўтрашні дзень дагнаць
на перагоне.

Каб яшчэ раз
паскакаць цыганачку
на вяселлі ў вясковай хаце...
Каб яшчэ раз...
мой трыццаць гадоў
як прыяцель.

## ВЫРАЙ

*Янку Брылю*

Калі набліжаецца восень
Дубы адлятаюць у вырай
Пакідаючы гнёзды з карэння
З пісклянятамі жалудоў
І тады
Грэюць косці свае
Пад каменным скляпеннем каміна
Тады
У пакоях пульсуюць цяплом пазалотай
Ажываючы твары партрэтаў
Гасячы свечак агонь
Тады
Быццам конікі іскры траашчаць
І ўзлятаюць як зоры
Якія ў палёце згасаюць
Тады сінімі стужкамі дыму
Сон варожаць з вачэй

Дубы больш ужо не вяртаюцца
У гай свой
На месца дзе іх пассякалі
А калі і вяртаюцца
Дык толькі на крылах вятроў
Дымам з коміна ці жменей попелу

Але гэта было ўсё даўно
Калі блочных дамоў
Мы не зналі.

## НА ЗМЯРКАННІ ЛЯ ВАДАПОЮ

Крысо пяску,
Адкінутае хваляй на расісты луг,
Замацоўвае негатывы
Капытоў.
Бярозы, што нясуць свой цень,
Спіхваюць яго з адхону
Ў вадапой.

Конь праз шкло вады
Цалуе сваю пысу
І з дна азёрнага глядзіць
На стэп нябёс,
На бледна-серабрыстую падкову,
Згубленую пегасам
У галопе.

Крывавае вока сонца,
Прыплюшчанае пагоркам,
Пазірае на распранутых дзяўчат,

Што ў золаце царкоўным
Сыходзяць
У цішыню вады,
У насцярожанасць аеру.

А я
З высокага акна гляджу
На ўсход неонаў гарадскіх,
Мо яны мяне
Да вадапою вернуць,
Каб мог я прагу наталіць
Тым золатам царкоўным.

## МАТЫВІРОЎКІ

Выбачаецца
З вялікадушнасці;
Выбачаецца
З пагарды;
Выбачаецца
З неабходнасці;
Выбачаецца
З розных меркаванняў;
Выбачаецца
Са страху;
Выбачаецца
З надзеі на ўзаемнасць;
З надзеі на ўдзячнасць —
Найцяжэй і вельмі рэдка
Выбачаецца
З любві.

## ЗМЯРКАННЕ З ДЗЯЦІНСТВА

Пад салодкім наркозам
І аеру і сена
Западае сяло ў цішыню.
У ставах чутна музыка жаб.
Асіна, якую цікавасць
Завяла на пагорак,
Атрасае з сябе
Залатыя дукаты.
Востраць ластаўкі крылы свае
На асялку залочаным хмары.

Ажно цяжка паверыць,
Што гэта я ў памяці змог захаваць,
Трымаючы далонь маткі,
Пахіленай нада мной.

## ДУБРОЎКА

Я маю ўласны свой гай дубовы,
Нёмана серпам абняты —
пад скрыжавальным агнём блакіту,
зорак, чаек, рэха.

Мая дуброва —
месца таемных спатканняў
маладзіка і сонца
у дні зацьмення —
і месца маіх спатканняў
з цішай,
з сабою самім
у маіх жа ўспамінах.

Раскінуўся гай мой дубовы
на мураве сакавітай,
дзе няма мурашнікаў,
павуціны,
імглы камароў —
на чыстай траве,
перамытай расой і дажджом,
грэбенем ветру часанай
і ценем імклівых аблокаў.

У дуброве маёй
імянныя дубы, гербавыя —
як калоны карынфскія,
вытачаныя перунамі, пяскамі,
дах лістоты ўздымаюць
з камінамі буслянак.

Невялікі мой гай дубовы —
вёрст ён пяцьсот займае,
адчынены толькі цяпер
мне,
заўсёды, калі засмуткуецца толькі,
калі зажадаецца.

Да маёй дубровы прыходзяць
праз далягляду шлагбаўм
без пашпарта —
праз граніцу зялёных сноў,
слоў,
гукаў...

Мой гай дубовы такі невялікі,
што змяшчаецца пад павекамі
з пошумам адвячорнага рэквіема
без пашпарта —
які гэты гай мне пакінуў.

## НАТУРШЧЫЦА ВЕТРУ

Дзяўчына — натуршчыца ветру,
Стаіць пад вясеннім дажджом.
З-пад стрэшкі далоні ўздымае
Зялёна-праменныя вочы
На хмару, што адплывае,
Прабітая коп'ямі сонца.

Як парусам мокрым сукенкі
Абвіў вецер цёплае цела
І абрысаваў яе грудзі,
І сцёгны, і стройныя ногі.
І вырваўшыся за вароты
На луг пад крыло пералеска,
Зялёна-праменную недзе
Панёс у вясёлку, ў туман.

І я ветру ў полі шукаю,
І я ветру ў лесе шукаю,
Шукаю дажджу веснавога,
Хоць восень даўно.

## ПАРТЫЗАНЫ

Маладыя,
плячыстыя,
дужыя,
перад боем прагнулі жыць,
а ішлі на смерць.

Без прымусу,
не па вярбоўцы,

не за плату
ішлі на смерць.

Папярэджвала іх
гісторыя мінулага веку —
трагічныя хатнія паданні роду
пра бацькоў — беспрытульных салдатаў,
пра сасланых паўстанцаў-дзядоў.
Папярэджвалі магілы Верасня.
Ішлі на смерць.

Разрывалі вузлы, што іх звязвалі:
кудзеркі дзяўчат,
сівыя ніткі матуліных валасоў,
натруджаныя жылы бацькоў;
уцякалі з хатніх гнёздаў
у заснежаны лес,
у забалочаны лес,
у квітнеючы лес —
на смерць.

І толькі вінтоўка...
Не ў легенду,
не ў казку...
Пад дзірван,
пад каменне,
на дно рэк,
у дубровы,
на скрыжаванні —
з імёнамі і без імён...

І заўжды ім па дваццаць...
І будзе заўсёды па дваццаць —
на магільных плітах,
на фатаграфіях,
у матуліным горы
і ў партызанскай песні.

Не з легенды,
не з казкі
ідуць:
жывыя,
прыгожыя,
маладыя,
па чатыры ў шарэнгах,
пабатальённа
палямі, нябёсамі, морам
дваццацігадовыя сыны
неперawможнай Радзімы.

## ЗБОР ГРЫБОЎ

Шукаў я грыбоў у дуброве
Шукаў я грыбоў у дуброве
Набраў іх поўныя вочы
Пад самыя дужкі павек
Касак
Гранатаў
І гільзаў
Дотаў
Зямлянак
Крыжоў
На магілах і зорак
У чырвані спелай каліны
У чырвані спелай каліны

Набраў я поўныя вочы
Набраў па самыя зубы
Жалудоў залацістазялёных
Што выплакалі дубы
Параненыя кулямі

Грыбоў не было ў дуброве

## НА СМЕРЦЬ ДЗЯДЗЬКІ АНТОСЯ

Акружылі,
сагналі вёску на пясчаны майдан
каля мосціка над рачулкай
Луконіцай.

Сабакі,
пачуўшы аўчарак,
рвалі ланцугі
на пустых панадворках.

З-пад каскі пачулася
тваё прозвішча і імя,
дэфармаванае нямецкай
гартаннасцю,
і стрэл —
вышэй за твае снегавыя зубы,
адкрытую ўсмешку.
Потым —
калі накрыў ты свой цень,
калі быў на пяску —
яшчэ два стрэлы.

З дубровы за Шчарай
паляцеў патройны покліч зязюлі,
а можа, гэта было
рэха...
рэха...
рэха...

Потым рокат матораў,
калі яны ад'язджалі спехам,
і кнігаўкі крык,
якая ценем крылаў
вочы табе закрыла.

І стаяў скамянелы натоўп,
а басаногі лес,
аплываючы жывіцай,
з шапкамі гнёздаў у далонях лістоты
услухоўваўся, ці не загучыць
партызанская песня.

Ужо мы не будзем разам
рыбу лавіць таптухай,
дзядзька Антось.

## ЛОДЗЬ

Славянская вуліца. Тут, на Славянскай,
дзе поўня над фабрыкай вартаю ўстала,
сто матак на кроснах снуюць калыханку
крывінкам сваім, сваім дзецям з падвалаў.

А зоркі ўсю ноч задыхаюцца ў дыме.
Далёка да золку — да дня яшчэ далей.
Сірэны сыноў, сном акутых, падымуць —
І рушаць сыны да раз'ясненых даляў.

Але не яснее. Усход вечна ў хмарах,
адзіна што ў чэрвені — часам на бруку
бунтоўна ўзаўецца агнянасць штандараў,
на міг, на пярэдых, на сэрц гулкі тухкат.

Славянская вуліца. Тут, на Славянскай,
на муры фабрычным бляск шыбаў праз краткі.
Гляджу проці бляску і бачу, бы ў рамцы,
штубацтва маё, маладосць маёй маткі...

## ДЗЕД І БАБКА

Дзед меў крылкі і катрынку конную —
Зарабляў — развозіў кіламетры хітрыя.
Бабка мела паркалёвую сукню шыкоўную
І начамі шыдэлкам вязала світэры.

У нядзелю, калі званы званілі ўсмак,
Бабка вымоджвала булкі і какао.
А дзед, адмыслова ўбраны ў фрак,
«Но, но, но!» — гукаў ласкава.

Паснедаўшы, баяліся ў касцёл спазніцца —
Ды ведаеце: падагра, апакаліпсіс
і апаплексія —
Дзед на кавёлах, бабка на спіцах:
Ішлося ім неяк праз сілу.

Заўсёды вярталіся з паловы дарогі дадому
(Другую палову на зіму хавалі не без прычыны).
І раз — уявіце сабе на момант —
Дзядулька спаткаў... дзяўчыну!

Вусны мела чырвоныя, плечы сонцам пазалочаныя,
Валасы — проста вецер, што над галавой
заплакаў,—
Вочы як Афрыка: спёкла-распаленыя,
пустэльна-чорныя,
І сцёгны, што калыхаліся мерна і мякка...

Ах! Неба — глыба блакіту — рухнула пад ногі,
І сонца — граната ручная — вясёлкай
пырснула ў вочы —
А крылцы, два ветразі, вецер, хапаючы
да знямогі,
Неслі Дзеда хартамі па слядах дзявочых.

Пёр! Быў гэта ні марш, ні бег, ні хада,
Толькі танец семнаццаці год у цвеце,
Толькі плыўны парыў адбівала вада,
Проста кажучы: нешта незвычайнае ў свеце.

Улёг Дзед за дзяўчынай — заняло ажно
дых бегуну! —
Ссушаных кіламетраў кінуў за плечы ці мала,
А катрынка конная мелодыі са сну
Па зямлі, па вадзе, па небе снавала —

Дзед — Бабка: адлегласць Амерыка — Гдыня,
Памножаная на буру, імглу, нуду і пампрокі —
А адлегласць Дзед — дзяўчына
На пяць,
на чатыры,
на тры,
два крокі!

О сэрца, што за прутамі рэбраў дрыжыць
як птах,
О дыханне, што лашчыць, о запал,
што палам вые.
І о... на жаль — сямідзесяці гадоў жах!
І о... на жаль — валасы сівыя!

Дзяўчына прыстоіла: залп чорных вачэй
без жалю!
Параненыя рукі раскінуў — аж іскры з вачэй —
А дзяўчына ўпала яму на грудзі, як мальва...
«Мацней прытуляй, цалуй гарачэй!»

Дык гэта ж дзень белы, дык гэта ж мястэчка!
...Водзван плыве ад ветру,
Вітаючы песеньку, што танцуе над рэчкай:
«Вырасла ў полі белая кветка...»

Сон — не сон? Байка пакропленая?
Успамін позні?
(Валасы... пэўна, вецер, што над галавой
заплакаў...)
Ліхаманка трапічная ад афрыканскага позірку?
Свет напачатку? Зноў жыццё да смаку?

З-пад цяжару пяцідзесяці гадоў светла
Мелодыя маладосць выграбала —
«Вырасла ў полі белая кветка...»
Ой, грала катрынка, грала!

І дзяўчына прызналася ўрэшце яму са слязамі
ў вачах:
«Я твая адзіная, ад пачатку свету царую.
Маю сукню з чорнага паркалю́. Па начах
Вяжу шыдэлкам світэры, вышываю іх і цырую.

Шмат гадоў я хавала ў кубел безупынку
Да касцёла палову дарогі на потым, употай,
Аж перамаглі ўспаміны пра маладую дзяўчынку
У нядзелю, якая дрыжала зелянінай і пазалотай —

І ў схоўню палезла. А дрыжала рука невыносна,
Калі дарогу нясдзейсненую і дрымотны час
Тут, на грудзях, пад блузкай хавала зайздросна,
Каб сваю маладосць перажыць яшчэ раз.

Далей ужо ведаеш: мы мелі палову дарогі —
Ты павярнуў — а ўва мне быццам кветка
распусцілася зноў!
Маладосць крыніцай прабілася, мяне панеслі ногі
У кіламетры, назбіраныя за пяцьдзесят гадоў...

Два і два — чатыры, шэсць і шэсць —
і дванаццаць ёсць —
Беглі гадзіны, памножаныя на кіламетры звітыя,

А з кожным здабыткам гасне бабчына маладосць —
Дзеда цягне катрынка — а Бабулю світэры.

Забыліся пра пацалункі, абдымкі, слёз узбліскі
(Вечар мачаў хадулі брудныя ў сажалцы шэрай).
Цяжкі зварот да дому — і дарога не блізкая —
Ногі іхнія грузлі ў пяску і валакліся
у траве сшэрхлай.

Былі ўжо амаль на палове дарогі,
Калі ўпаў на галовы ім птах начны, як жар,—
І — ад старасці, пакуты, трывогі
Дзеда і Бабу... хапіў удар!

Далей лягчэйшай была задача,
Бо, як ведаеце, меў крылцы Дзед,
Бабка (напачатку было зазначана)
Шыдэлкі мела, на якіх магла пнуцца ў свет.

У амурчыкаў ператварыліся ўдваіх спакваля,
Адна з шыдэлкамі, другі меў крылцы нянаскія —
Кірунак: неба, ну і voilá!
Дзве дзюркі ў носе, і скончана казка.

Хоць... Хіба я ведаю? Бо аднак...
мела і вусны чырвоныя
І валасы, проста вецер, што заплакаў
над галавою...
І вочы, што цешаць і несуцешна-шалёныя...
І сцёгны, і плечы, сонцам пазалачоныя...
Ну і... дзе... дзед павярнуў з паловы дарогі
на неба!
Можа, таму — а можа, ў гонар нядзелькі,
У сувязі з чым адмяняць мне трэба
Адну з дзюрак у носе.
Круцелькі... пяцелькі...

## ГАЛІНА УЛАНАВА

Зараз стала ўжо ўсё мажлівым,
калі сэрца трапеча, як птах:
гэта горы хістаюцца і плыве
маладзік праз бярозы — наўплыў.

Зараз стала ўжо ўсё мажлівым
у лабірынце серпантынаў музычных —
нават тое, што ў вяліне фантан
вырастае абрысам дзявочым.

О, Уланава, Уланава, Уланава,
узнесеная на крылах музычных,
абстраляная паласой пражэктара,
няўлоўная, вывівастая, гнуткая,

зрыфмаваная ў шклістым паркеце,
пяшчотна ацененая пенай аблокаў —
зорка срэбная, што працінае ў балеце
адчаем подбегаў і палётаў!

О, Уланава, Уланава, Уланава —
ля стоп тваіх валаны гермесавы,
а ля плячэй вуаль парыванняў,
што твой профіль пастэллю прысмерку
значаць.

Трэба доўга чакаць імгнення,
каб выразна ўбачыць твой твар:
мудрую ўсмешку, што праз мукі ішла
ў творчы акт.

## ФРАГМЕНТ

...На рынку гандляры з тварам апосталаў
прадаюць чортава зелле карыцу і глог
з крывой вулкі сухія званкі ксілафонаў
брук музычны гучыць ад ног
узносіцца горб вулкі і сплывае спакойна
у адмеранай сонцам пашчы замкавай брамы
лета спякота горыч і паўдзён
і ты спявак у чорную апанчу ўбраны

скрып жураўля і звон бляшаных конавак
смех дзяўчыны срабрыць ваду ўсхваляванa
тут крычаць далёкія ў тлустым пыле дарогі
што вядуць у свет пусты неспазнаны
тут цень звільгатнелы пад дахам заезнага дому
і дрэў старыя кароны атрасуць табе ветру акраўкі
тут засні калі збудзішся вачыма падвоіш зоры
што запоўнілі дзень срэбрам зялёным раптам

распагодзь чало глянь да цябе хінуцца забойцы
табе давяраюць каты і разбойнікі ахвоча
табе верыць паэт з палкім сэрцам
усе ўсе каму зямля плюе ў вочы
уночы месячык прагоніць змору
вызваліць песню заклятую каб на струнах бліскала
бледна-зялёныя расшумяцца і ноч і мора
і вочы нейчыя будуць блізка дужа блізка
песня забойцам пяе пра волю
песні болей песні болей

## ПЕСНЯ

Палазамі праз снег
па-над коньмі млечная пара
за намі фіялетавых строчак бег

а пры мне любая і гітара
прытуліся мацней драпежней
за язду саладзей каханне
не губляй вочы ў пустэльні снежнай
тут мне кожная зорка гляне
буду за свет дужэй
буду за свет багацей
на свет мільёны зорак глядзяць
тут на мяне глянь пільней
вечнасць за вясну меней
маладосць за жыццё болей
калі цотнай струны памкненне
на гітарным эліпсе ные болем
што ж так браце забойца плачаш плачаш
вырві чало з ачмурэння далоняў
ведаю зараз жыццё сабачае
што свет хвошча нас цкуе і гоніць
ноч і віхор прыляцелі добрыя
ўстань пойдзем блукаць пакрыёма
настаў каўнер і шапку на́бак
рушым на ўлоў незнаёмы

## ГОРАД, ДЗЕ ГРАЮЦЬ ФАРТЭПІЯНА

*Зенану М.*

У салоне, у змрок адчыненым,
з крылом фартэпіяна,
выплывае акно аблачынкай
у спеўным горадзе Тагліяна...

Упёршыся ў поручань крэсла,
гляджу ў твае пальцы ўпарта

і чую — ў грудзях закіпае
крык: torte, forte, forte!

О людзі, о добрыя людзі,
разнасцежце вокны шырока,
хай у кожнай маленькай вулцы
булькочуць песні ў рыштоках.

Хай хлынуць вясёлкі мелодыі
берагамі вулак, да рынку,
хай з вокан лятуць на галовы
музычныя пырскі тынку.

Хай пяцілісцёва далоньмі
гарадскія ўдарэць каштаны
ў сукаватую клавіятуру,
у штыкеты, бы ў фартэпіяна.

Хай вырасце звон з тратуараў,
хай звоняць з бетону пліты
з-пад ног пахаджан вясёлых
фантанна і самавіта.

Няхай узрываюцца рамы,
хай валяцца сцены нанаў,
хай лесвіц лятуць staccato,
дзе граюць фартэпіяна.

Хай блытаюцца і пеняцца,
плывуць цераз верх нараканнем,
ірвуцца ў завулках мелодыі,
працятыя бэзам, змяркапнем.

Хай адпачне мелодыяй
блакіт, над горадам распластаны,

ў горадзе спеўным Тагліяна
на сёмым небе ў Тагліяна.

Б'юць, б'юць як у звоны
ў горадзе спеўным Тагліяна
тысячы і мільёны
касмічных фартэпіяна...

Тут перад скверыкам рынка
на ратушных белых прыступках
самотны сяджу — і чую:
свет маё сэрца прастукаў,

а вочы ўслуханы ў помнік:
у рапсодыю масянжовую бургамістра —
пераношу ў згаслае неба,
дзе першая зорка бліскае.

Чакаю ноктюрн Фрыдэрыка,
гонт маладога поўніка —
Бургамістр! Сон наплывае —
ссунься з цокаля помніка.

Як на клавішы, на прыступкі
масянжовыя пакладзі далоні —
ноч, поўнік, Шапэн і ціша
сон звонкі ўціснуць у скроні!

Заснём у дзівосным Тагліяна,
ў каменныя ўтулімся пліты!
Ты ажыўлены зноў мелодыяй,
а я мелодыяй зноў забіты.

## КАХАННЕ

Дарагая мая жыццё да цябе ішло справядліва
змаганне дзе промень заўсёды перамагае
білася сэрца тады драпежліва і гулліва
і плечы шырэй выпроствала кроў маладая
каханне жыццё багацей за незнаёмае вымярэнне
зерне што разрывае зямлю як дынамітам
каханне скачок калі парашут дрэмле
калі ў прорву ляцяць забыўшы на смерць старую
калі стралой праз блакіт і воблакі над нябытам
зямлю жыўцом навылёт прасвідруеш
каханне перапросіны з бэзам і язмінам
і першы салоўка якому салодка ў словах
першая вясна сапраўдная неразмінная
распятая як балдахін у срэбных
далонях вярбовых
каханне цень каляровы з вітражу крылаў анёла
срэбраны водзван звону са свіцязяў поўневых
балада якая плыве на вясёлкавых колах
насуперак снам каб спатканнем поўніцца
скрышыць і расціснуць боль што губы
агнём нявечыць
крывавай палосай салёнай ружай полымя
аброненай
вечная ненасытнасць і ўражанняў голад вечны
вусны тваё вусны безабаронныя
далоні тваё вецер аксамітны ў сонечным моры
далоні тваё шоўк персікавы і хваля
(плыве зямля і плывуць Млечным Шляхам зоры)
далоні тваё ў далонях сваіх прапальваю
цёмна цёмна лаўрова і золатна
калі ў нетры тваіх вачэй заглыбліваюся
спакусна
у смарагдавым акіяне ночы
вуснамі ў вусны

## ЖОНКА КВЕТКІ І Я

Жонка мая гадуе кветкі
мае іх цэлы дзетсад
звычайных і рэдкіх —
яны расселіся на падаконні
на схілах балкона
у гаршчэчках гліняных
у кратарах вазонаў
паўзуць па сценах
вісяць пад столлю
пляскаюць лапкамі лістоў
усміхаюцца шукаючы пары
і апякаюць на сонцы каляровы твары

жонка правярае штодня
лінію прысутнасці
лісток да лістка просячы
выклікае па імю
і па прозвішчы
потым выводзіць на шпацыр
на ўзятай з конаўкі прывязі
ў цяністыя сады сноў
пад месячык прыязны
корміць іх з рукі —
глытаюць кропелькі срэбнай расы
і вітаміны сонца і блакіт
— глянь белыя браткі зацвілі ўначы —
жонка кажа натхнёна
— глянь заблакітнела над ятрышнікамі
— глянь на свежы лісток радэндрона
— глянь як калючкі ў кактуса пасівелі
а я захінуты ў газеты і цішы радзюжку
ўдыхаю фарбы друкарскай пах
і — хоць не бачу, не чую — мушу
пад нос мармытаць: — Ах!

## ЛЮСТЭРКА

Калі ў люстэрка гляджу
бачу сябе
і тое
што па-за мною

Калі ў вочы твае гляджу
бачу цябе
і сябе
і ўсё што па-за намі
што мы за сабой пакінулі
што прамінула
што час аддаліў

Пакліч гэта
наблізь вачыма гэтае першае
чыстае
зялёнае
свежае —
лацвей нам будзе разам
праз стромы побач ісці —
хоць бы з той гронкай бэзу
якую тады не даў табе я...

## НАД НЁМНАМ

Выспа пяску,
Сапхнутая хваляю ў росны луг,
Капытоў негатывы зафіксавала.

Бярозы, што цені свае пасуць.
Спіхваюць яе з адхону
Да вадапою.

Конь
Цалуе пысу сваю
Праз шкло вады
І глядзіць са дна азярыны
На стэп небакраю,
На бледна-срэбраную падкову,
Якую ў галопе згубіў
Пегас.

Крывавае вока сонца,
Узгоркам прымружанае,
Падглядвае голых дзяўчат,
Што ўваходзяць у плаўкае золата,
У цішу вады,
У маўчанне аеру́.

А я
З вокан высокіх гляджу
На ўсход гарадскіх неонаў —
Можа, сны
Павядуць мяне да вадапою,
Каб смагу спатоліць мог
Трывожным золатам.

# ЗМЕСТ

**Кананові ч М. Ю.**

К 19 Мой гай дубовы: Лірыка. З польскай.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 70 с.

Сучасны польскі паэт і празаік М. Ю. Кананові ч — выхадзец з Гродзеншчыны. Яго паэзія прасякнута глыбокім пачуццём да Народнай Польшчы, да нашай краіны і паказвае чалавека на вайне і ў мірным будаўніцтве, у роздуме над жыццём.

К $\frac{4703000000-049}{M302(05)-86}$ 169—86 ББК 84.4П

МАТЕЙ ЮЗЕФ КОНОНОВИЧ

МОЯ ДУБРАВА

Лирика



Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
Рэдактар В. С. Сёмуха
Мастак С. У. Балянок
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна
Карэктар Т. В. Трубач

ІБ № 2344

Здадзена ў набор 25.09.85. Падп. да друку 10.02.86. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,63. Ум. фарб.-адб. 2,85. Ул.-выд. арк. 2,83. Тыраж 2500 экз. Зак. 1820. Цана 35 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.